Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 8 950.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 27 студзеня 1998 г. № 5 Кошт 2 000 руб.

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Беларусь вымірае

**З кожным годам беларусаў становіцца менш. Летась у нашай краіне нарадзілася на 47 тысяч чалавек меней, чым памерла.**

Паводле папярэдніх звестак міністэрства статыстыкі, на 1 студзеня 1998 года ў Беларусі жыло 10 мільёнаў 203 тысячы чалавек. За мінулы год насельніцтва скарацілася на 33 тысячы (0,3%). Галоўная прычына — фізічнае выміранне нацыі, якое на канцылярскай мове называецца «натуральныя страты». За перыяд з 1990 года гэтыя «страты» склалі 87 тысяч чалавек, за гэты ж час у Беларусь прыехала 78 тысяч чалавек.

Статыстыка за 1997 год асабліва трывожная: перавышэнне колькасці тых, хто памёр, над нованароджанымі дасягнула 47 тысяч чалавек, іміграцыя (у Беларусь прыехалі жыць 14 тысяч чалавек) кампенсавала толькі адну трэцюю гэтага змяншэння. Калі ў 1996 годзе натуральны прырост быў адзначаны ў 82 гарадах з 212, то ў 1997-м — толькі ў 61. Самы высокі ўзровень натуральных стратаў насельніцтва ў Віцебскай і Мінскай абласцях — 7 чалавек на 1.000. Паранейшаму асноўнымі прычынамі смерці застаюцца хваробы сістэмы кровазвароту, рак, няшчасныя выпадкі, атручванні і траўмы.

У Беларусі ўсё менш родзіцца дзяцей, акрамя таго, у 1997 годзе кожнае шостае дзіця было народжанае па-за шлюбам. Сумарны каэфіцыент нараджальнасці ў цэлым па краіне не перавышае 1,3 — у той час як для простага ўзнаўлення насельніцтва гэты паказчык павінен дасягаць 2,15.

*БелаПАН*

## Амерыканцы ад'язджаюць, ракетныя пляцоўкі застаюцца

**Беларусь павінна знішчыць стартавыя пляцоўкі ядзерных балістычных ракет, але ўжо за свае грошы, без амерыканскай фінансавай дапамогі.**

Плануецца, што ўжо на гэтым тыдні амерыканская фірма *Controlled Demolition Incorporated* (*CDI*) вывезе сваё абсталяванне з Беларусі. Тэхніка, якую даставілі ў Беларусь са Злучаных Штатаў і якая прастаяла паўтара года на базе будтрэста №4, ужо знаходзіцца на чыгуначнай станцы Калядзічы пад Мінскам.

*CDI* выступала генеральным падрадчыкам на правядзенне работ па ліквідацыі стацыянарных збудаванняў «Крона». Гэтыя аб'екты былі прызначаныя для базіравання пускавых комплексаў міжкантынентальных балістычных ракет РС-12М «Тополь» (СС-25), вывезеных з Беларусі ў Расію.



*Так выглядае стартавая ракетная пляцоўка, знішчаная выбухам. (Фота з архіва, Слуцкі раён).*

Урад ЗША выдзеліў нашай краіне фінансавую і тэхнічную дапамогу для ліквідацыі стартавых пляцовак міжкантынентальных ракет. Гэты праект вядомы пад назвай «Праграма Нана—Лугара». Амерыканскі бок прадугледзеў неабходныя сродкі (40 мільёнаў долараў), пасля заключэння чыў контракт з фірмай *CDI*. Аднак у мінулым годзе фінансаванне было прыпыненае, на рэалізацыю праграмы паступіла толькі 1,9 мільёна долараў. *«Беларускі бок не даў нашым спецыялістам доступу на аб'екты, якія падлягалі знішчэнню,* — падкрэсліў намеснік міністра абароны ЗША Эдвард Ўорнэр падчас свайго візіту ў Мінск у снежні 1997 года. — *У выніку праект зачынены, Беларусь павінна будзе дэмантаваць стартавыя пляцоўкі ракет самастойна».*

Нагадаем: Дагавор аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў прадугледжвае ліквідацыю стацыянарных збудаванняў «Крона» на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да канца 2001 года.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**
**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Злавілі яшчэ адных забойцаў Мікалуцкага

**У Магілёве затрыманыя асобы, якія падазраюцца ў забойстве старшыні абласнога камітэта Дзяржкантролю Яўгена Мікалуцкага. Аб гэтым паведаміў у суботнім інтэрв'ю БТ сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман.**

Шэйман не назваў імёнаў і прозвішчаў арыштаваных — відаць, у інтарэсах следства. Ён, аднак, пацвердзіў: як і меркавалася раней, гэта было заказное забойства, добра спланаванае і падрыхтаванае. Нагадаем, што Яўген Мікалуцкі, якога Лукашэнка пасля назваў сваім блізкім сябрам, загінуў 6 кастрычніка ў пад'ездзе ўласнага дома: выбухнула бомба з дыстанцыйным кіраваннем. Выступаючы на паніхідзе, прэзідэнт даў забойцам 10 дзён на тое, каб яны прызналіся ў злачынстве, інакш, па ягоных словах, следства «не будзе абцякарваць сябе пошукам доказаў». Лукашэнка ўзяў пад асабісты кантроль ход следства, якое вядуць спецыялісты па расследаванні тэрарыстычных актаў з КДБ і іншых сілавых ведамстваў. Неўзабаве з'явіўся і спецыяльны дэкрэт аб барацьбе з тэрарызмам.

У інтэрв'ю Шэйман даў зразумець, што забойства Мікалуцкага было звязанае з яго прафесійнай дзейнасцю. Гэтая версія, па словах шэфа Савета бяспекі, адпрацоўвалася з самага пачатку. Аднак няма пэўнасці, што на гэты раз арыштавана сапраўдныя злачынцы. За амаль чатыры месяцы, што мінулі з часу забойства галоўнага магілёўскага кантралёра, усплывалі некалькі прозвішчаў, якія называліся ў якасці верагодных заказчыкаў тэракта. Праз некалькі дзён пасля гібелі Мікалуцкага ў Магілёве была арыштаваная кіраўніца мясцовага аддзялення «Беларусбанка» Яўгенія Шасцерыкова. Следства пачало раскручваць версію, што менавіта гэтая жанчына «заказала» Мікалуцкага на той толькі падставе, што Дзяржкантроль праводзіў праверку банка, які яна ўзначальвала. Пасля арышту экс-міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава і старшыні АТ «Рассвет» Васіля Старавойтава Лукашэнка, як і абяцаў, не стаў абцяжарваць сябе доказамі і фактычна прылюдна абвінаваціў экс-міністра і славутага калгасніка ў арганізацыі забойства. Пасля ў гэтым кантэксце ўзгадваўся і адзін з кіраўнікоў беларускай федэрацыі кікбоксінгу, які жыў у Магілёве.

З суботняга выступлення Шэймана так і засталося незразумелым — знятыя з гэтых людзей абвінавачванні ці не. Відавочна толькі, што справа Мікалуцкага з самага пачатку ператварылася ў палітычную. Беларускае тэлебачанне паспяшалася падаць факт затрымання ў Магілёве невядомых людзей як вялікую перамогу Лукашэнкі над злачыннасцю. Маўляў, дзякуючы асабістаму кантролю за ходам расследавання забойства з боку прэзідэнта праваахоўная сістэма краіны прадэманстравала высокі прафесіяналізм і здольнасць трымаць узровень злачыннасці пад кантролем.

Наколькі ўладзе ўдаецца «кантраляваць крымінал», лепей за ўсё гавораць лічбы. Па дадзеных міністэрства статыстыкі, летась у Беларусі было здзейснена 52,9 тысячы цяжкіх злачынстваў (ці 41% ад агульнай колькасці парушэнняў Крымінальнага кодэкса). Так што трубіць аб вялікіх дасягненнях у барацьбе з крыміналам — рана. Гэтаксама, як і ставіць канчатковую кропку ў расследаванні забойства Яўгена Мікалуцкага.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Лабковіч і Шыдлоўскі рыхтуюцца да суда

*Следчы зрабіў сваю справу і атрымаў павышэнне*

**16-гадовага Вадзіма Лабковіча і 19-гадовага Аляксея Шыдлоўскага будуць судзіць: справа перададзеная ў Мінскі абласны суд.**

Гэта адбылося ў мінулую пятніцу, паведаміў следчы Васіль Папін, які ад пачатку вёў следства па факце з'яўлення на будынках у райцэнтры Стоўбцы апазіцыйных лозунгаў. Па словах следчага, суд над актывістамі «Маладога фронту», якім ужо прад'яўлена абвінавачванне, павінен пачацца прыблізна праз два тыдні. Юнакам інкрымінуюць злоснае хуліганства, апаганьванне помнікаў, знявагу дзяржаўных сімвалаў. У выніку абвінавачаным пагражае некалькі гадоў турмы. Следчы Папін не сумняваецца, што віна хлопцаў будзе даказаная ў судзе. Папін сцвярджае, што доказаў ён сабраў дастаткова.

Дарэчы, як стала вядома, Васіль Папін атрымаў павышэнне па службе: нядаўна ён пераведзены з Стаўбцоўскай раённай пракуратуры ў Мінскую абласную.

Між тым, сусветная арганізацыя Міжнародная амністыя (*Amnesty International*) абвесціла аб прызнанні Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага вязнямі сумлення. Гэта азначае, што Беларусь трапіла ў міжнародны спіс краінаў, дзе людзей пераследуюць за іх палітычныя погляды.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Павышэнне зарплаты кампенсуюць цэнамі

**Не паспелі яшчэ людзі атрымаць новы заробак пасля павышэння мінімальнай зарплаты, а кошты на харчаванне пачалі хутка павышацца.**

Аднымі з першых рушылі ўгору кошты на малако і мяса. Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання рэкамендавала павысіць закупачныя цэны на малако на 8—12%. Гэта, безумоўна, выкліча павышэнне роз473ічных цэнаў, якое можа адбыцца ў самы бліжэйшы час. А з 20 студзеня, у адпаведнасці з пастановай Камітэта цэн пры міністэрстве эканомікі, у сярэднім на 6,6% узраслі кошты на мяса і мясапрадукты.

Дзяржава ў чарговы раз выкарыстоўвае старую тактыку: спачатку аб'яўляецца пра павышэнне мінімальнага заробку, пасля хутка пачынаюць расці цэны — значна раней, чым людзі адчуюць павелічэнне сваіх даходаў. І цяпер дадатковы рубель можна будзе ўбачыць у сваім кашальку толькі ў лютым, а цэны ўжо сталі расці.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Першы смяротны прысуд

**22-гадовы Ігар Міронаў з Полацка стаў першым у 1998 годзе злачынцам, прыгавораным да выключнай меры пакарання.**

Калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда прызнала І.Міронава ў наўмысным забойстве трох чалавек. Падчас следства таксама выявілася, што за І.Міронавым лічацца і іншыя цяжкія злачынствы.

*БелаПАН*

# Чарговы штраф Валерыю Шчукіну

**Калі б у Беларусі была свая Кніга рэкордаў Гінэса, дык у яе абавязкова трапіў бы дэпутат Валерый Шчукін. Агульная сума штрафаў, выпісаных яму на шматлікіх судовых паседжаннях, складае цяпер 77,5 мільёна рублёў.**

23 студзеня суддзя Цэнтральнага раённага суда Мінска А.Барысёнак разглядаў справу аб «супрацьдзеянні В.Шчукіна супрацоўнікам міліцыі». Як сказаў на судзе сам Шчукін, пасля дэманстрацыі 23 лістапада (яна была прымерканая да гадавіны «канстытуцыйнага рэферэндуму») да яго падышлі два чалавекі ў скураных куртках. Яны прадставіліся супрацоўнікамі Крымінальнага вышуку, але не далі Шчукіну магчымасці разгледзець іхнія пасведчанні. Па словах Шчукіна, ён «успрыняў гэтых людзей як бандытаў» і таму сапраўды ім супраціўляўся. Паколькі ўдвух міліцыянты не далі рады затрымаць былога марскога афіцэра, яны паклікалі на дапамогу яшчэ некалькіх супрацоўнікаў (ізноў жа ў цывільным) і агульнымі намаганнямі запхнулі Шчукіна ў белыя «Жыгулі».

Спасылкі В.Шчукіна і ягонага адваката на палажэнні Адміністрацыйнага кодэкса, не мелі поспеху. «Так, такі артыкул ёсць — але рэальная практыка іншая», — быў адказ. У выніку прысуд — паўтара мільёна рублёў штрафу.

У гэты ж дзень гэты ж суддзя А.Барысёнак павінен быў разглядаць яшчэ тры справы дэпутатаў — Станіслава Багданкевіча, Віктара Ганчара і Анатоля Лябедзькі. Суддзя нават падпісаў пастанову аб прымусовым прыводзе іх у суд. Але міліцыянты не знайшлі дома Ганчара і Лябедзьку.

Заўважым: 23 студзеня быў апошні дзень, калі можна яшчэ было пакараць удзельнікаў той дэманстрацыі: мінуў двухмесячны тэрмін адказнасці па адміністратыўных справах.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



*Валерый Шчукін.*

# Больш замежнай гарэлкі

**У 1998 годзе ў Беларусь будзе ўвезена замежнага алкаголю амаль на 22% больш, чым летась.**

Такі вынік праведзенага конкурсу на імпарт алкагольных вырабаў і спірту на 1998 год. Плануецца, што сёлета імпарт гарэлкі вырасце на 12,5% у параўнанні з леташнім планам, вінаградных вінаў — на 10%. Самы вялікі прырост у тры разы чакаецца па імпарце іншых відаў спіртных напояў — каньякоў, лікёраў, джыну і г.д. Ігрыстых вінаў і шампанскага завязуць на 30% больш. У абсалютных лічбах вінаградных вінаў імпартуюць на 955,7 тыс.долараў, а гарэлкі — на 13,5 тысячы.

У конкурсе ўдзельнічала 41 фірма, пераможцамі сталі 28. Аднак сёлета сярод іх няма такіх вялікіх і вядомых фірмаў-імпарцёраў шляхетнага алкаголю, як СП «Мідвест» ці ЗАТ «Філіпаў». Таму не выключана, што праз нейкі час могуць быць перабоі з набыццём напояў накшталт «Марціні» або джыну «Біфітэр». Але ж гэта не самае страшнае, праўда?

**Алесь САДОЎСКІ**

# Дзяржаўнаму заводу грошай не даюць

**Праект рэканструкцыі наваполацкага аб'яднання «Палімір» каштуе 300 мільёнаў долараў ЗША.**

Гэты праект распрацаваны спецыялістамі нафтаперапрацоўчага гіганта. Рэканструкцыя дазволіць павысіць колькасць і якасць вуглевадароднай сыравіны для нафтахімічнага сінтэзу. Інвестарамі праекта гатовыя выступіць Міжнародная фінансавая карпарацыя, расійская кампаніі «Газпром», «ЛУКойл» і «ОНЭКСІМбанк». Аднак пры гэтым яны выстаўляюць беларускаму боку шэраг умоў — у прыватнасці, Міжнародная фінансавая карпарацыя фінансуе толькі недзяржаўныя прадпрыемствы.

# Школьнік, кармiся сам!

**Пры кожнай вясковай школе абавязкова ёсць поле-агарод, на якім дзеці вырошчваюць садавіну і гародніну — вучацца гаспадарыць на зямлі. У Бяседавіцкай сярэдняй школе Хоцімскага раёна рашыліся на большае: узялі ў апрацоўку адразу 30 гектараў.**

Можна, канечне, запярэчыць: у школе дзеці павінны набываць веды, а не палоць грады. Аднак сёння дзяржава не дае грошай, каб нармальна забяспечыць навучальны працэс, а на харчаванне школьнікаў выдзяляецца ўсяго пару тысяч у дзень. Таму вырашылі паспрабаваць.

Збіралі з поля цэлай талакой — і дзеці, і настаўнікі, і дырэктар, і качагар. Дарэчы, трактар школа мае свой, а трактарыст лічыцца ў штаце педкалектыву. Дырэктар Бяседавіцкай школы Яўген Сідарэнка кажа, што яны задаволеныя вынікамі эксперыменту: сабраны ўраджай збожжа і бульбы прынёс у школьную скарбонку больш за 100 мільёнаў рублёў.

Грошы гэтыя ідуць не толькі на забеспячэнне школьнай сталоўкі прадуктамі і харчаванне вучняў. З зароблених сродкаў школа можа купіць падручнікі, канцылярскія тавары, неабходны інвентар. На гэты год планы яшчэ большыя — апрацаваць 42 гектары. Перавагу будуць аддаваць збожжавым культурам: менш клопату і лягчэй пасля прадаць ураджай.

У Хоцімску цяпер думаюць, каб гэтую практыку самавыратавання пашырыць і на іншыя школы раёна. Рэч, канечне, добрая, але ж дзеці ў школе павінны вучыцца... Тым больш што дзяржава ў Канстытуцыі гарантуе ўсім якасную бясплатную адукацыю.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Два адвакаты Аляксандра Пупейкі

**Вядомы юрыст і праваабаронца Надзея Дударава, а таксама яе сын адвакат Іван Дудараў будуць прадстаўляць інтарэсы бізнесмена Аляксандра Пупейкі.**

Як вядома, былы кіраўнік канцэрна «Пушэ» Аляксандр Пупейка быў затрыманы ў Варшаве ў сярэдзіне снежня; на мінулым тыдні яго выпусцілі з-пад варты пад заклад і падпіску аб нявыездзе з тэрыторыі Польшчы. Пытанне аб выдачы бізнесмена беларускім праваахоўным органам (а ён абвінавачваецца ў невяртанні крэдыту) бліжэйшым часам павінен вырашыць Варшаўскі ваяводскі суд.

*«На першым этапе нашая галоўная задача,* — паведаміла Надзея Дударава на прэс-канферэнцыі, — *сабраць доказы і аргументы, каб Пупейку не выдалі беларускаму боку».* Па словах Дударавай, у падтрымку Пупейкі выступілі многія вядомыя ў нашай краіне людзі. З адпаведнай заявай у пракуратуру Польшчы звярнуліся і адвакаты. Нядаўна Дударава сама пабывала ў Варшаве, дзе сустракалася з польскімі абаронцамі Аляксандра Пупейкі, і ў Маскве — для інфармавання расійскай праваабарончай грамадскасці аб справе беларускага прадпрымальніка.

Адвакат таксама заўважыла, што ў беларускіх праваахоўных органаў недастаткова доказаў віны Аляксандра Пупейкі. *«Гэта — палітычная помста за тое, што Пупейка ў свой час падтрымліваў апазіцыю і адмаўляў у падтрымцы афіцыйным уладам. Ён быў працўнікам эканамічнай палітыкі, якую праводзіць кіраўніцтва краіны»,* — сказала Дударава.

*БелаПАН*

# Мала зрабіць – трэба прадаць

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) фінансуе сёння ў Беларусі сем праектаў, чатыры з якіх дзяржаўныя, а тры — прыватныя.**

Як паведаміў кіраўнік прадстаўніцтва ЕБРР у Беларусі Алан Папоў, усе праекты рэалізуюцца дастаткова паспяхова. Аднак ён адзначыў: калі валютная палітыка дзяржавы не ў парадку і марудна ідзе працэс прыватызацыі, банку больш складана фінансаваць той ці іншы праект.

Па просьбе журналістаў кіраўнік прадстаўніцтва ЕБРР пракаменціраваў асобныя лічбы ў развіцці беларускай эканомікі. У прыватнасці, гаворачы пра 10-працэнтны рост валавага ўнутранага прадукту па выніках 1997 года, А.Папоў сказаў, што лічбы гэтыя «больш-менш рэальныя», аднак неабходна ўлічваць шэраг іншых фактараў — ці ёсць рынак збыту для гэтых тавараў, ці з'яўляецца прыбытковай іх вытворчасць і г.д. Толькі калі выконваюцца ўсе гэтыя ўмовы, можна гаварыць пра поспех у эканоміцы.

*БелаПАН*

# Абакраў дзяцей – плаці 9 мільёнаў

**Такую суму штрафу Чачэрскі раённы суд вырашыў спагнаць з тых дарослых, якія пад выглядам дзяцей-«чарнобыльцаў» паехалі летась адпачываць у санаторыі Еўпаторыі і Севастопаля за кошт дзяржавы.**

Як у свой час паведамляла газета СВАБОДА, з бясплатнага дзіцячага адпачынку скарысталі некалькі чыноўнікаў, у тым ліку першы сакратар Чачэрскага райкама БПСМ, міліцыянты, школьныя настаўнікі — усяго 22 чалавекі.

Чачэрск — раённы цэнтр у Гомельскай вобласці, які моцна пацярпеў ад Чарнобыля. Штогод мясцовая камісія па аздараўленні дзяцей сумесна з райаддзелам адукацыі рыхтуе спісы дзяцей, якія едуць на адпачынак у Крым за кошт дзяржаўнага бюджэту. Летась па гэтых спісах у Крыме адпачывала 137 дзяцей з Чачэрскага раёна. Але, як высветліў старшыня камісіі па аздараўленні дзяцей Пётр Несцяровіч, 22 дарослыя, падрабіўшы дакументы, паехалі па Поўдзень замест дзяцей. Разгарэўся скандал. Супрацоўнікі раённага аддзела адукацыі і дырэктары школ, вінаватыя ў парушэннях, атрымалі строгія вымовы ад райвыканкама.

Але на гэтым скандал не скончыўся. Па гэтым факце пракуратура распачала разбіральніцтва. І вось цяпер, пасля рашэння суда, аматарам дармавога адпачынку давядзецца раскашэліцца на дзевяць мільёнаў кожнаму. Але ж гэта ўсё роўна менш, чым яны заплацілі б, паехаўшы на адпачынак за свае грошы.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Мытнікі на лаве падсудных

**Мытня — орган, які павінен стаяць на абароне эканамічных інтарэсаў дзяржавы. Але здараецца і наадварот: мытнікі становяцца зладзеямі.**

Па словах намесніка старшыні дзяржаўнага мытнага камітэта Аляксандра Дзеравяшкі, леташняя атэстацыя паказала, што 415 адказных работнікаў мытні не адпавядалі сваім пасадам; 131 чалавек звольнены з мытных органаў, 70 — паніжаны ў пасадах. Акрамя таго, летась супраць мытнікаў былі ўзбуджаны 74 крымінальныя справы, пад следствам знаходзіліся 99 супрацоўнікаў мытных службаў. У выніку 14 чалавек былі асуджаныя да пазбаўлення волі.

Пры гэтым мытнікі — не самыя бедныя людзі. Як паведаміў А.Дзеравяшка, сярэдні месячны заробак працаўнікоў мытні ў мінулым годзе склаў 4 мільёны рублёў (у цэлым па краіне сярэдняя зарплата толькі ў канцы года наблізілася да 3 мільёнаў у месяц). Сёння колькасць мытнікаў у Беларусі складае больш за 5 тысяч чалавек.

*БелаПАН*

# Лёс Шарамета і Завадскага вырашыўся ў Маскве?

*Чаго чакаць журналістам ОРТ*

Сёння ў Ашмянах павінен аднавіцца суд над Паўлам Шараметам і Дзмітрыем Завадскім, якіх абвінавачваюць у незаконным пераходзе беларуска-літоўскай мяжы 22 ліпеня мінулага года. Ужо больш за месяц цягнецца гэты працэс, але дагэтуль ніхто не можа спрагназаваць, які лёс чакае супрацоўнікаў беларускага бюро ОРТ. Здавалася б, падстаў для апраўдаўчага прысуду дастаткова, але беларуская Феміда за апошні час столькі разоў дэманстравала своеасаблівае стаўленне да закона, што, бадай, нікога асабліва не здзівіць пакаранне Шарамету і Завадскаму, як кажуць, на ўсю катушку.

Многія ўдзельнікі працэсу выказвалі меркаванне, што на канчатковы вердыкт суда можа паўплываць маскоўская сустрэча Лукашэнкі з Ельцыным, якія гутарылі ў мінулы чацвер тэт-а-тэт. Цяпер ужо ёсць доказы таго, што «справа Шарамета» на сустрэчы двух прэзідэнтаў калі і не абмяркоўвалася, то па меншай меры закраналася. Заявіўшы журналістам пасля сустрэчы з Лукашэнкам *«паміж намі ўсё ўжо ўладжана»*, расійскі прэзідэнт, безумоўна, меў на ўвазе і інцыдэнт з групай ОРТ. Ельцын не назваў канкрэтна гэты прыклад, а толькі ўзгадаў пра *«канфлікт з журналістамі»*, але і гэтага хапіла: Лукашэнка, які яўна баяўся развіцця непажаданай для яго тэмы, паспешліва паправіў Ельцына: *«Ды нічога і не было»*.

Падатлівасць расійскага прэзідэнта: *«Не было? Значыць не было»*, — бадай, можа разглядацца як пацверджанне песімістычных прагнозаў аб магчымых выніках ашмянскага працэсу. Не выключана, што прэзідэнт Расіі, пачынаючы новы віток інтэграцыі з Беларуссю, пайшоў на чарговую саступку і дазволіў давесці справу Шарамета да лагічнага канца.

Відаць, і ў самога Паўла пасля 22 студзеня спадзяванняў на апраўдаўчы прысуд не пабольшала. У каментары да вынікаў маскоўскай сустрэчы ў праграме «Время» Шарамет заўважае, што *«беларускі прэзідэнт раней ужо неаднаразова не выконваў абяцанні, дадзеныя Ельцыну»*. Сказана дыпламатычна, з добра пастаўленай тэлевізійнай усмешкай. Але, пагадзіцеся, Крэмль у чарговы раз прынёс «ахвяру» імперскай ідэі аднаўлення «вялікай Расіі». І хоць ідэя марная, спробы ажыццявіць яе і ахвяры будуць. Шарамет і Завадскі, відаць, не апошні прыклад.

І ўлады не адчэпяцца. Суд перапыніўся, бо Павел Шарамет захварэў. У першы ж дзень хваробы да яго дахаты спецыяльна прыехалі «афіцыйныя» дактары, каб праверыць дыягназ «ангіна», пастаўлены ўчастковым лекарам. У сталінскія часы так прыязджалі, каб павезці на суд «тройкі». У брэжнеўскія — каб адправіць у псіхушку. Цяпер правяраюць «звычайны» дыягназ, але ж хвароба прагрэсуе...

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*На здымку: Павел Шарамет, адвакат Дз.Завадскага Святлана Лабоха, адвакат П.Шарамета Гары Паганяйла ў зале суда.*

# Бульба саступае сваё месца на палях

**У Петрыкаўскім раёне, што на Гомельскім Палессі, паспрабавалі вырошчваць новыя культуры — сланечнік і сою. Эксперымент удаўся.**

Новыя расліны на палескай зямлі далі вельмі добры ўраджай. Частку сланечніку пусцілі на алей, праўда, для гэтага семкі на перапрацоўку давялося везці ў Віцебск. А ўвогуле і сланечнік, і сою гаспадаркі плануюць прадаваць кампаніі «Соя-Поўнач», якая зоймецца іх далейшай рэалізацыяй.

У свой час у амерыканскім штаце Каларада (ЗША) бульба моцна цярпела ад каларадскага жука, і тады мясцовыя фермеры паспрабавалі вырошчваць сою — і нечакана атрымалі вялізныя прыбыткі. Удзячныя фермеры нават паставілі жуку помнік. Можа, тое ж адбудзецца і на Палессі, дзе таксама гаспадарыць каларадскі жук?

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Польшча разлічылася з «Газпромам»

**Размаўляць з Расіяй трэба цвёрда і з пазіцыі нацыянальных эканамічных інтарэсаў — гэтая пазіцыя афіцыйнай Варшавы прынесла свой плён.**

Не так даўно Рэм Вяхіраў, прэзідэнт канцэрна «Газпром», на прэс-канферэнцыі ў Маскве даў зразумець: калі Польшча на працягу найбліжэйшых месяцаў не разлічыцца за пастаўкі газу, то кран можа быць перакрыты. Паводле Вяхірава, Польшча вінаватая «Газпрому» 200 мільёнаў долараў.

Аднак на мінулым тыдні ў Варшаве Вяхіраў гаварыў з польскім урадам ужо ў іншай манеры — як з важным кліентам. Шэф «Газпрома» ветліва і культурна пераконваў польскі бок у выгаднасці набыцця газу ў Расіі. На сустрэчы з віцэ-прэм'ерам Лешкам Бальцэровічам расійская дэлегацыя прызнала, што большая частка доўгу ўжо сплачана. Запазычанасць была часткова пагашаная польскімі таварамі масавага спажывання, а рэшта доўгу будзе пакрытая за кошт удзелу Польшчы ў пабудове трубаправода з Расіі ў Заходнюю Эўропу.

**Янка ЧУРЫЛОВІЧ,**
*Варшава*

## Дзяржбяспека Украіны рыхтуецца да выбараў

**Генеральная пракуратура і Служба бяспекі Украіны трапілі ў цяжкое становішча: апошнім часам да іх звяртаецца «неймаверная колькасць дэпутатаў з паведамленнямі аб падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў супраць іх».**

Што значыць «неймаверная колькасць», кіраўнік Службы бяспекі Украіны Уладзімір Радчанка ўдакладняць не стаў, але паведаміў, што *«такога наплыву яшчэ не было»* і што *«ніводзін сігнал не атрымаў пацверджання»*. Украінскія спецслужбы лічаць, што такім чынам некаторыя палітыкі хочуць падняць свой рэйтынг, здабыць папулярнасць — хай сабе і скандальную.

Пры гэтым шэф украінскай дзяржбяспекі падкрэсліў, што ягонае ведамства прытрымліваецца поўнага нейтралітэту і стаіць па-за палітычнай барацьбой. Аднак у СБУ распрацаваны сакрэтны цыркуляр «Аб асаблівасцях сучаснага моманту», у якім адзначаецца, што вызначальнай рысай сённяшняй сітуацыі з'яўляецца *«рэзкае абвастрэнне палітычнай барацьбы напярэдадні выбараў»*, а таму Служба бяспекі *«прыме меры па недапушчэнні акцый тэрору, карупцыі службовых асобаў, якія могуць паўплываць на вынікі выбараў, а таксама спробаў сілавога вывядзення апанентаў з палітычнай барацьбы»*.

У сувязі з усім гэтым генеральная пракуратура Украіны, міністэрства ўнутраных справаў і Служба бяспекі выступілі са зваротам да грамадзянаў Украіны, у якім заклікаюць *«праявіць высокую свядомасць, павагу да закона, не дапусціць падчас выбараў антыканстытуцыйных або іншых супрацьпраўных дзеянняў»*. Парламенцкія выбары на Украіне адбудуцца ў сакавіку.

Дарэчы, Вярхоўная Рада Украіны прыняла закон, паводле якога дэпутаты мясцовых органаў улады не будуць карыстацца дэпутацкай недатыкальнасцю: імунітэт застанецца толькі ў членаў парламента.

## Міліцыянтаў стане менш

*А ўнутраныя войскі будуць пераходзіць на прафесійную аснову*

**Да 1 красавіка органы ўнутраных справаў Украіны зменшацца на 30 тысяч чалавек.**

Як паведаміў міністр унутраных справаў Украіны Юрый Краўчанка, гэтае рашэнне выклікана фінансавымі прычынамі: бюджэтам на 1998 год прадугледжаныя меншыя сумы на патрэбы МУС. Перш за ўсё скарачэнне закране пенсіянераў і тых, хто выслужыў свой тэрмін. Колькасць міліцэйскіх чыноўнікаў (у тым ліку і ў апараце міністэрства) зменшыцца на 1,5 тыс. чалавек.

Наступны этап рэформы органаў унутраных справаў, па словах міністра, будзе заключацца ў пераводзе часткі ўнутраных войскаў на прафесійную аснову. *«Практыка паказвае, што 18-гадовыя хлопчыкі ва ўнутраных органах не могуць вырашаць сур'ёзныя задачы па падтрыманні парадку і асабліва ў барацьбе з тэрарыстамі»*, — зазначыў міністр.

## Каспійскае мора можа загарэцца

**Каспій можа стаць такім жа небяспечным рэгіёнам, як і Балканы, лічыць прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў.**

На Балканах двойчы перасякаліся інтарэсы магутных дзяржаваў — і гэта заўсёды прыводзіла да крывавых войнаў. Сёння, падкрэсліў Н.Назарбаеў, інтарэсы самых магутных краінаў і транснацыянальных карпарацыяў перакрыжоўваюцца ў Каспійскім рэгіёне.

Сярод самых балючых праблем — няпэўнасць межаў. На некаторыя ўчасткі Каспійскага шэльфа з радовішчамі нафты прэтэндуюць розныя дзяржавы, у тым ліку і Расія. Прычым Масква не хоча прытрымлівацца падзелу Каспія па схеме, распрацаванай у савецкія часы, — зазначыў прэзідэнт Казахстана.

## Чарнобыльскую АЭС рамантуюць марудна

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця незадаволены выкананнем на Чарнобыльскай АЭС праектаў, якія фінансуюцца банкам.**

У свой час ЕБРР падпісаў з урадам Украіны дакумент аб выдзяленні дапамогі ў 118 мільёнаў экю (каля 130 млн. долараў) на павышэнне бяспекі ЧАЭС і падрыхтоўку да вываду яе з эксплуатацыі. Міністэрства энергетыкі Украіны пацвердзіла, што прадстаўнікі ЕБРР незадаволеныя тэмпамі будаўніцтва двух аб'ектаў — сховішча адпрацаванага ядзернага паліва і ўстаноўкі па перапрацоўцы вадкіх радыёактыўных адходаў.

Чакаецца, што пастаўка на ЧАЭС неабходнага абсталявання будзе закончана ў жніўні-верасні 1998 года, а работы закончацца ў чацвёртым квартале гэтага года. Цяпер урад Украіны і кіраўніцтва ЕБРР абмяркоўваюць праект грантавага фінансавання работ па ператварэнні аб'екта «Сховішча» (чарнобыльскага «саркафага») у экалагічна бяспечную сістэму; агульны кошт праекта — каля 750 мільёнаў долараў.

*Паводле паведамленняў Інтэрфакса, БелаПАН, УНІАН*

*Русские глазами английской журналистки*

# Их хорошо любить издалека

Ксенофоб, как известно, — это человек, который испытывает паталогический страх перед иностранцами. Английская журналистка Элизабет Робертс (впрочем, как и многие другие британцы) с детства сильно интересуется Россией. И она смело призналась в такой фобии, написав своеобразный «Путеводитель ксенофоба по русской ментальности»: так приблизительно можно перевести название ее небольшой, но весьма занимательной книжки.

Всерьез воспринимать пассажи экзальтированной британки наверное не стоит. Они скорее могут стать иллюстрацией знаменитого английского юмора: далеко не сразу понимаешь, что именно пригрянулось автору. Впрочем, это не мешает миссис Робертс довольно точно и с ехидцей подмечать характерные черточки тех, кто считает себя хотя бы «русскоязычным».

### Не забижай

Русский может говорить о себе и о своей стране в ироническом тоне, но особо доверять ему не стоит. Право ругать свою родину русский отводит только себе — и может впасть во гнев, если этим начнет заниматься кто-то «чужой». Особенно неистов гнев русских по отношению к тем, кого они любят называть своими братьями. Младшими, естественно.

### «Моей души широкие просторы...»

Характерная особенность русского характера — склонность к долгим душевным разговорам, которые изрядно, в их истории, обретали форму «парламента». Но как бы там ни было, все русские не годами, а сотнями лет продолжают обсуждать проблемы: ***«Кто виноват?»*** и ***«Что делать?»*** На эти вопросы есть небольшой, но верный «джентльменский набор» ответов. Виноваты, как правило, *«жидо-масоны»*, а *«если хочется работать — ляг посли, и все пройдет»*.

Выше всего русский человек ценит такое трудноопределимое качество, как «душа», и безошибочно определяет, что у Ельцина она широкая, а у Горбачева вообще таковой не было. Душу полагается открывать настежь, пусть даже слушатель и не склонен слушать излияния.

### Какой же русский не любит вкусной езды?

Русский — человек фаталистического склада, что объясняется непредставимыми размерами страны и ее разнообразно-критическим климатом. В любую поездку надо пускаться, вооружившись тем самым фатализмом. И дорожным набором, где обязательными являются вовсе не зубная щетка и паста. Зато русские всегда отправляются в путь, вооружившись запасами еды, выпивки, питья и спальными принадлежностями.

### «Нормально, Вася...»

В ответ на дежурный вопрос: — «Как дела?» русский человек чаще всего дает универсальный ответ: «Нормально». Во время обстрела Белого дома западный журналист, прячась в укрытии с юным солдатиком, под грохот пулеметных очередей спросил его: «Как дела?», на что тот пожал плечами и ответил: «Нормально».

### «Веселие Руси есть питие»

Глобальными пристрастиями русских являются стремление жить в обстановке секретности, пить и беседовать.

Говорить они могут беспрестанно. К сожалению, для них исключительно трудно говорить на ходу. С русским человеком просто невозможно вести беседу на прогулке, ибо едва ему приходит в голову новая идея о смысле жизни или о сравнительных достоинствах «Динамо» и «Спартака», он тут же останавливается. Может, в мозгу у русских есть особый участок, который связывает язык и ноги...

Десятилетия существования под незримым надзором КГБ выработали у русских людей целый набор жестов и молчаливых сообщений, понятных каждому жителю этой страны. Например, два пальца на плече обозначают работника спецслужб, указательный палец, устремленный на люстру, — разговор подслушивается.

Пьют русские утром, днем и вечером. Многие считают, что основная трагическая ошибка Горбачева, которая в конечном итоге вызвала его падение, заключалась в неуклюжей антиалкогольной кампании. Впрочем, ходили неподтвержденные слухи, что его отец был алкоголиком.

### Секс-услуги со скидкой

Хотя более семидесяти лет русские пытались убеждать мир, что профессиональных проституток у них нет, а имеются только «отдельные любительницы», в стране всегда существовала мощная индустрия секса.

У проституток в России существовала очаровательная и приятная (для некоторых счастливых клиентов) практика брать с тех, кто им нравится, меньший гонорар. Симпатичный молодой американский бизнесмен выслушал от своего японского коллеги возмущенные сетования: с него «девушка по вызову» взяла триста долларов, а с американца за те же услуги — всего сто.

Но есть и приверженцы строгих нравов. Говорят, что священники советуют супружеским парам во время занятий любовью занавешивать в спальне лик иконы.



*Русские чиновники не отличаются от просто русских: у них также в ходу привычка втроем делать то, с чем без труда справится один, причем впоследствии им, как правило, начинает помогать четвертый. Только бюрократы еще и делают это все задом наперед.*

### Гимнюк и Софья Власьевна

Чувство юмора у русских развито в превосходной степени, особенно тот его раздел, который называется «смех сквозь слезы».

Русский язык позволяет тонко и выразительно играть словами. Так, автор текста Гимна Советского Союза получил прозвище «гимнюк»; советская власть называлась «Софья Власьевна», а КГБ — «Контора глубокого бурения».

### Храните деньги в банках. 3-литровых...

В России рекомендуется отказываться от многих наивных и вредных привычек. Как, например, стремление пользоваться услугами банков. Русские банки пользуются репутацией далеко не самых безопасных мест для хранения денег — по той простой причине, что часто они отказываются возвращать вклады, даже не утруждаясь объяснением причин. Поэтому те, кто победнее, стараются держать деньги дома «в заветном тайничке», а те, кто побогаче, — за границей, особенно в виде недвижимости.

### Нужна машина? Угоним...

Идеальной работой для многих русских продолжает оставаться та, где можно «сидеть» — то есть делать как можно меньше и получать как можно больше, а к тому же приходить попозже и уходить пораньше.

Возникающие проблемы русские предпочитают не столько решать, сколько «засовывать под ковер»; пойманный на оплошности не извиняется, а пожимает плечами или откровенно врет. В ходу привычка втроем делать то, с чем без труда справится один, причем впоследствии им, как правило, начинает помогать четвертый.

Тем не менее когда русский человек по-настоящему принимается за дело, он справляется с ним быстро и эффективно. Вплоть до криминала. Когда некоему западному предпринимателю потребовалась машина, чтобы вывезти строевой лес, его заверили, что с транспортом проблем не будет: в случае необходимости машину просто украдут.

Нельзя не признать, что русские быстро учатся и стремительно осваивают западное искусство менеджмента. Учебники бизнеса, стоит им появиться на книжных полках, тут же исчезают, быстрее, чем бестселлеры... Но при этом русские ведут свой бизнес на совершенно иных принципах, которые англичанину или французу не объяснишь ни в какой книге.

### Сентименты

В заключение повествования, говоря о своей привязанности к России, Элизабет Робертс растрогалась и разоткровенничалась. Оказывается, её старшая дочь штудирует в университете русский язык, а карьера младшей на оперной сцене состоялась лишь после того, как она на безукоризненном русском языке исполнила арию Ольги из «Евгения Онегина».

Умом Россию не понять...

*Подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

## У Скідалі пісьменнікаў не хочуць

**У Гродне скончыліся дні Адама Міцкевіча, якія працягваліся з 21 па 24 студзеня.**

У іх удзельнічала група сталічных пісьменнікаў, яны правялі 35 сустрэч, у тым ліку 24 — са школьнікамі. У самім Гродне асаблівых праблем не ўзнікала, а вось раённыя ўлады палічылі пісьменніцкія вечарыны шкоднымі і забаранілі іх праводзіць у горадзе Скідалі і ў калгасе «Капцёлка».

**С.А.**

## Палякі пастараліся для беларусаў

**Пасля некалькіх гадоў працы ў Польшчы выдадзеная турыстычная карта Белавежскай пушчы — першая за апошнія 50 гадоў.**

У падрыхтоўцы гэтага выдання ўзялі ўдзел польскія спецыялісты, а з Беларусі — навуковы супрацоўнік Белавежскай пушчы М.Чаркоў. На карце пазначаныя ўсе аб'екты, вартыя ўвагі турыстаў, — гістарычныя пахаванні, курганы, рассяленні птушак, «зубрыныя паляны» і г.д. Карта выкананая на належным прафесійным узроўні і можа ўяўляць цікавасць не толькі для турыстаў, але і для навукоўцаў.

Бліжэйшымі днямі ў мястэчку Белавежа ў Польшчы адбудзецца прэзентацыя выдання. Паколькі карта прызначаная перш за ўсё для еўрапейскіх турыстаў, яна выдадзеная адразу на чатырох мовах — англійскай, французскай, нямецкай і беларускай.

*БелаПАН*

# Моладзь верыць у сябе

**Сучасныя маладыя людзі вельмі самастойныя: нават сур'ёзныя асабістыя праблемы яны стараюцца вырашаць самі, не звяртаючыся па дапамогу старэйшых.**

Калі маладому чалавеку цяжка, сумна, адзінока — ён хутчэй за ўсё пакліча да сябе сябра ці сяброўку, якія дапамогуць яму падняць настрой. У кожным выпадку, так сказалі 50% удзельнікаў сацыялагічнага апытання. Амаль столькі ж (49%) у хвіліны смутку слухаюць любімую музыку. 12% уцякаюць ад адзіноты на прыроду, за горад. Зусім няшмат маладых людзей спадзяюцца на дапамогу бацькоў і родных, і ніводзін з апытаных не стане звяртацца да тэлефона даверу, хоць ведаюць пра існаванне такой псіхалагічнай службы амаль усе.

Музыка не толькі ратуе маладых людзей у цяжкія моманты: большасць рэспандэнтаў (61%) паведамілі, што заўсёды слухаюць музыку, калі надараецца вольная хвіліна. Прыкладна палова апытаных у вольны час глядзяць тэлевізар або выязджаюць на прыроду. 41% захапляюцца чытаннем — нягледзячы на тое, што дарослыя дзядзькі і цёткі часта бурчаць, быццам сённяшняя моладзь зусім не любіць кніжак.



*Гэтыя хлопчык і дзяўчынка — яшчэ зусім дзеці, яны танцуюць проста таму, што любяць танцы. Але пройдзе пару гадоў — і парны танец атрымае для іх крыху іншы змест.*

Рэгулярна займаюцца спортам чвэрць апытаных і столькі ж адказалі, што часта наведваюць канцэрты і тэатры. Займацца хатнімі справамі, дапамагаць бацькам па гаспадарцы ў вольны час любяць толькі 13% маладых людзей: яно і лагічна — дарослыя клопаты яшчэ ўсе наперадзе.

І, нарэшце, амаль палова юнакоў і дзяўчат (44%) прызналіся: калі ёсць вольная хвіліна, яны бягуць на спатканне. Ну, калі не бягуць, дык ідуць. Ці, у горшым выпадку, размаўляюць са сваімі каханымі па тэлефоне. І нічога дзіўнага: каштоўнасці сям'і большасць моладзі ставіць на першае месца.

Даследаванне правodзіў Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі сярод жыхароў Мінска і Мінскай вобласці ва ўзросце ад 14 да 27 гадоў.

*БелаПАН*

# Даты і лёсы

## *27 студзеня*

**1756.** Нарадзіўся сусветна вядомы кампазітар Вольфганг Амадэй Моцарт. Пражыў ён толькі 35 гадоў і памёр у галечы, але паспеў напісаць 20 опер, 41 сімфонію, 27 струнных квартэтаў і мноства іншых цудоўных твораў.

**1826.** Нарадзіўся расійскі сатырык М.Салтыкоў-Шчадрын. Царскім указам «за шкодны лад думак» у 1848 г. быў сасланы ў Вятку.

**1930.** Прэзідыум ЦВК БССР прыняў пастанову пра датэрміновыя перавыбары Саветаў, якія марудзяць з калектывізацыяй і ліквідацыяй кулацтва як класа. Давялося перавыбраць амаль дзве трэці сельсаветаў.

**1936.** Падчас судовага працэсу ў Віленскім акруговым судзе Сяргей Прытыцкі па заданні ЦК КПЗБ застрэліў сведку. Яго прыгаварылі да пакарання смерцю, а потым пад ціскам СССР змянілі прысуд на пажыццёвае зняволенне. У 1939 г. тэрарыста вызваліла Чырвоная Армія. Памёр Прытыцкі ў 1971 г. на пасадзе старшыні прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

**1943.** Амерыканская авіяцыя ўпершыню бамбіла Германію. У той жа дзень нацысты абвесцілі татальную мабілізацыю ўсіх жыхароў рэйха: 16—65-гадовых мужчынаў і 17—45-гадовых жанчынаў.

## *28 студзеня*

**1588.** Кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза зацвердзіў трэці Статут Вялікага княства Літоўскага — збор законаў феадальнага права, які дзейнічаў на нашых землях да 1840 г.

**1881.** У Мінску была створаная падпольная друкарня народніцкай арганізацыі «Чорны перадзел».

**1897.** У Расійскай імперыі прайшоў першы перапіс насельніцтва. У Мінску налічылі 90.912 жыхароў.

**1948.** Нарадзіўся знакаміты расійскі танцор і харэограф Міхаіл Барышнікаў, які падчас гастроляў Вялікага тэатра ў ЗША ў 1974 г. папрасіў палітычнага прытулку і неўзабаве стаў мастацкім кіраўніком Амерыканскага тэатра балета.

**1986.** На 75-й секундзе пасля старту з мыса Канаверал узарваўся касмічны чаўнок *Challenger*. Экіпаж — пяць мужчынаў і дзве жанчыны — загінуў. Наступных астранаўтаў амерыканцы рызыкнулі паслаць у космас толькі праз два з паловай гады.

**1991.** Мастацкі кіраўнік «Песняроў» Уладзімір Мулявін атрымаў званне народнага артыста СССР.

## *29 студзеня*

**1905.** У Мінску спынілася конка: страйк.

**1916.** Германскія дырыжаблі ўпершыню бамбілі Парыж. У той жа дзень адбыліся выпрабаванні першых англійскіх танкаў.

**1920.** Ленін падпісаў дэкрэт "Пра ўсеагульную працоўную павіннасць". Тым, хто адмаўляўся ад бясплатнай працы, пагражалі турма або канцлагер.

**1945.** Не зважаючы на цяжкія пасляваенныя ўмовы, урад БССР выдзеліў «братняй» Польшчы 10 тыс. тон збожжа.

**1946.** У Мінску скончыўся судовы працэс над ваеннымі злачынцамі. Паводле прыгавору суда 14 нямецкіх генералаў і афіцэраў 30 студзеня былі пакараныя смерцю.

**1975.** Ва ўзросце 103 гадоў 6 месяцаў у Каламбус, штат Агаё, памерла міс Марта Нельсан. Яна паставіла сусветны рэкорд па часе знаходжання ў лякарнях: яе шпіталізавалі ў 1875 г., і правяла яна на бальнічным ложку амаль 100 гадоў.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Заслона эпідэміям

**Пасля эпідэміі віруснага менінгіту, якая летась ахапіла Гомель, мясцовыя ўлады выдзелілі немалыя сродкі на набыццё сучаснага медыцынскага абсталявання для цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

Днямі новая медыцынская тэхніка, якая дазваляе праводзіць эфектыўную дыягностыку любых вірусных і бактэрыяльных інфекцыяў, прайшла выпрабаванні. Калі раней аналізы на вірусы рабілі толькі ў Мінску, то цяпер за 6-8 гадзін заключэнне робіцца на месцы. Абсталяванне дазваляе выяўляць такія захворванні, як туберкулёз і СНІД, на ранніх стадыях. Гэта асабліва актуальна для Гомельшчыны, дзе назіраецца ўспышка распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі і туберкулёзу.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

**УВАГА: КОНКУРС!**

**Бацькі і дзеці**

**Вы ведаеце, што вы жывяце ў еўрапейскай краіне — Беларусі?**

**Вы не забыліся, што неўзабаве надыдзе XXI стагоддзе?**

***Калі ведаеце і не забыліся пра гэта, бярыце ўдзел у літаратурна-мастацкім конкурсе:***

**Наш дом Беларусь у XXI стагоддзі.**

**Конкурс праводзіцца ў чатырох намінацыях:**

1. ***Беларусы — еўрапейскі народ*** *(прызы імя Францішка Скарыны);*
2. ***Беларусь — наша Бацькаўшчына, наша маці*** *(прызы імя Янкі Купалы);*
3. ***Беларусь — наш дом, наш храм*** *(прызы імя Уладзіміра Караткевіча);*
4. ***Абаронім наш дом Беларусь!*** *(прызы імя Алеся Адамовіча).*

Дзеці да 7 гадоў робяць надпісы тэмаў конкурсу алоўкамі, малююць малюнкі або складаюць вершы. Дзеці і падлеткі 7—13 гадоў робяць малюнкі (аплікацыі), пішуць верш або празаічны твор. Падлеткі, дзяўчаты і юнакі 14—17 гадоў ствараюць мастацкі або літаратурны твор.

Літаратурныя творы дасылаюцца на адрас журы ў 2-х экземплярах. Малюнкі, выкананыя каляровымі алоўкамі, акварэллю, гуашшу, тушшу або тэмперай, а таксама аплікацыі дасылаюцца ў канверце або паштовай бандэроллю. Пры кожнай працы павінна ўказвацца тэма (намінацыя).

Тэрмін дасылання прац на конкурс: ***да 18 сакавіка 1998 г. (па паштовым штэмпелі).***

Падвядзенне вынікаў — ***да 25 сакавіка 1998 г. Пераможцы ў кожнай намінацыі атрымаюць каштоўныя прызы. Найлепшыя творы будуць апублікаваныя.***

У склад журы конкурсу ўваходзяць пісьменнікі Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Артур Вольскі, Васіль Сёмуха, Міхась Тычына, мастакі Аляксей Марачкін, Яўген Кулік, Алесь Шатэрнік, Мікола Купава, Сяргей Крыштаповіч, педагог і кінарэжысёр Уладзімір Колас.

Працы дасылаць на адрас: ***220050, г.Мінск, вул.Кірава, 21, БГАКЦ (п.22)*** — з паметкай *на конкурс.*

Тэлефон для даведак: (0172) 27-32-77.

**СПОРТ**

## Біятланістам – снегу, хакеістам – поспехаў!

У японскім горадзе Нагана ўсё гатова да пачатку XVIII зімовых Алімпійскіх гульняў, якія адкрыюцца тут 7 лютага. З Грэцыі ў Японію дастаўлены алімпійскі агонь, адчынена алімпійская вёска і — выпаў вялікі снег. Гаспадары Гульняў вельмі доўга яго чакалі і цяпер прадбачліва запасаюцца «белым багаццем» на трасах лыжных гонак, біятлону, на пляцоўках для прызямлення скакуноў з трампліна і на адхонах гор, дзе будуць спаборнічаць горналыжнікі.

Алімпійцы 70-ці краінаў праводзяць апошнія прыкідкі перад вылетам у Нагана. Для біятланістаў (а яны — галоўная нашая надзея на Алімпіядзе) своеасаблівым КПП стане чэмпіянат Еўропы, які павінен прайсці ў Раўбічах, у 20 кіламетрах ад беларускай сталіцы. Праблема тая ж, што і ў Нагана — снег. На жаль, Мінск ужо мае прыкры досвед: у 1990 годзе ў Раўбічах адбылася толькі адна гонка чэмпіянату свету, а астатнія пяць былі перанесеныя ў Нарвегію. Памятуючы сумны вопыт, арганізатары з дапамогаю салдат, валанцёраў і тэхнічных сродкаў укладваюць трасы для спаборніцтваў біятланістаў снегам, які прывозяць з бліжэйшых палёў і лясоў. Тытанічная праца блізіцца к канцу, заўтра, 28-га, — адкрыццё еўрапейскага чэмпіянату страляючых лыжнікаў.

Тым часам становяцца вядомымі імёны тых, хто будзе аспрэчваць алімпійскія медалі. Аб'яўлены склад зборнай Беларусі па хакеі, якая ў мінулым сезоне прынесла нам столькі радасці сваімі перамогамі ў алімпійскім адборачным турніры і на чэмпіянаце свету ў групе «В». Галоўная і прыемная навіна — у камандзе будуць гуляць Уладзімір Цыплакоў («Лос-Анджэлес Кінгз») і Руслан Салей («Анахайм Маццi Дакс»), нашыя прадстаўнікі ў НХЛ (Нацыянальнай хакейнай лізе), дзе, як вядома, сабраныя мацнейшыя ігракі ўсяго свету. Беларуская клубы прадстаўленыя варатарамі Аляксандрам Шумідубам і Леанідам Грышукевічам.

А вось і ўвесь склад.

***Варатары:*** Андрэй Мезін («Слінт-Джэнералз», ЗША), Аляксандр Шумідуб («Палімір», Наваполацк), Леанід Грышукевіч («Юнасць», Мінск); ***абаронцы:*** Аляксандр Аляксееў («Рунгстэд», Данія), Алег Хмыль («Лада», Расія), Сяргей Яркові́ч («Лас-Вегас», ЗША), Аляксандр Журык («Гамельтон», ЗША), Ігар Матушкін («Будэн», Швецыя), Алег Раманаў («Лада», Расія), Руслан Салей («Анахайм», НХЛ), Сяргей Стась («Нюрнберг», Германія); ***нападаючыя:*** Аляксандр Андрыеўскі (ХПК, Фінляндыя), Алег Антоненка («Нафтахімік», Расія), Вадзім Бекбулатаў («Северсталь», Расія), Аляксандр Гальчанюк («Мічыган», ЗША), Аляксей Калюжны («Дынама», Масква), Віктар Карачун («Аўгсбург», Германія), Андрэй Кавалёў («Крэфельд», Германія), Аляксей Ложкін («Фрэдырэктон», ЗША), Васіль Панкоў («Слован», Славакія), Яўген Рошчын («Кхака», Іспанія), Андрэй Скабелка («Тарпеда», Яраслаўль, Расія), Уладзімір Цыплакоў («Лос-Анджэлес», НХЛ).

На першым этапе ў Нагана беларусам прыйдзецца скрыжаваць клюшкі з камандамі Францыі (7 лютага), Германіі (9-га) і Японіі (10-га). У выпадку поспеху нашыя ўвойдуць у васьмёрку лепшых і працягнуць барацьбу за медалі.

**Сямён ПЛОЦ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1143 Нумар падпісаны ў друк 26.01.98 (15:00) Наклад — 8.950